№ 6 [21] ЧЭРВЕНЬ 1949 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ведай, верай, надзеяй і любоўю да лепшае будучыні.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

# У пошуках разьвязкі

Шэрае будзённае жыцьцё прыносіць з сабою для чалавека цэлы рад складаных пытаньняў, якія ад найдаўнейшага часу, да сёньняшняга дня зьяўляюцца паважнымі балячкамі для грамадзкага ладу і супакою.

Такімі заўсёды актуальнымі і заўсёды нявырашальнымі пытаньнямі ёсьць: адносіны клясаў, працоўных і працадаўцаў, грамадзкага ладу, адносіны моцных і слабых народаў і шмат іншых падобных пытаньняў.

Да гэтага часу створана нямала розных тэорыяў, каб разьвязаць іх, але пажаданае разьвязкі ня знойдзена. Некаторыя з тэорыяў на словах выдаюцца вельмі прыгожымі, але калі толькі пачынаюць ажыцьцяўляцца на практыцы, дык прыносяць яшчэ горшы нялад і незадаваленьне і горшыя формы жыцьця, як да іх ажыцьцяўленьня.

Ад калі распачаўся буйны развой мэханізацыі, назіраюцца вельмі паважны зьмены ў грамадзкім жыцьці; ня толькі зьявілася новая кляса людзей — пралетарыяў, але так-жа адчуваецца блізу на кожным кроку паважны ўплыў гэтае мэханізацыі на псыхіку чалавека. У некаторых асяродзьдзях можна сьцьвердзіць, што ў меру разросту мэханізацыі — упрошчваецца думка аб жыцьці агулам і аб духовым жыцьці чалавека ў асаблівасьці. Было нават дайшло да таго, што вытварыўся так званы мэханічны матэрыялізм, які быў натолькі недарэчным, што ўканцы нават марксісты яго вострa скрытыкавалі і замянілі крыху больш складаным дыялектычным матэрыялізмам, але аднолькава бяздушным, як і папярэдні. Калі на практыцы пачалі перабудоўваць людзкое жыцьцё паводля навукі гэтага матэрыялізму — дык усім ведама, да якіх жудасьцяў гэта давяло цэлыя народы і краіны, дзе праводзяцца гэткія досьледы.

Усе цяжкасьці, якія былі ў фэодалізьме, лібералізьме, капіталізьме, збольшваюцца ў сацыялізьме і вырастаюць да кашмарных формаў у матэрыялістычным камунізьме. Тым самым кожнаму паважна думаючаму чалавеку мусіла-б быць ясным, што ў гэтым напрамку нельга спадзявацца знайсьці жаданае разьвязкі грамадзкіх пытаньняў.

Аднак часам маецца ўражэньне, быццам людзі сьведама заплюшчваюць вочы, каб вобмацкам і ў поцемках шукаць выйсьця з цяжкога палажэньня. У гэтых пошуках напатыкаюць на розныя вострыя канты, на скалы, на розныя выступы і моцна раняць сябе, набіваюць балючыя гузы, але баяцца расплюшчыць вачэй, быццам шукаць трэба абавязкава на сьлепа.

Толькі калі цяжкі боль не аднаго даняў да жывога, расплюшчылі вочы і з падзіву зжахнуліся. Яны даведаліся і пабачылі, што «ўжо дзьве тысячы гадоў таму Хрыстос прынёс нам Праўду і Жыцьцё адносна ўсяго таго, што мы мусім ведаць і выканаць», — вось, што заявіў нядаўна адзін з выдатных вучоных падчас тутарак у зьвязку з «Тыднем францускіх інтэлектуалістаў». Ён-жа дадаў: «калі дзеля гэтага неабходна вывучыць катэхізм, дык трэба гэта зрабіць; калі грамадзкія інстытуцыі мусяць быць зрэфармаваныя ў Хрыстовым дусе, дык гэта так-жа трэба зрабіць».

Запраўды прыгожы сказ і варты ня толькі падзіву, але і найшчырэйшага ўспрыняцьця. Аднак і тут нельга ўпрошчваць і нельга забывацца, што

Хрыстос ня прынёс гатовых формаў грамадзкага ладу для ўсіх стагодзьдзяў і для ўсіх пытаньняў, бо жыцьцё не стаіць на мейсцы, але заўсёды рухаецца ўпярод. Ёсьць шмат магчымых жыцьцёвых шляхоў для чалавецтва, але найпэўнейшым жыцьцёвым шляхам ёсьць той, па якім наперадзе йдзе Сам Хрыстос і кажа нам: «Я ёсьць дарога, праўда і жыцьцё» (Іван, XIV, 6). Толькі сьледам за Хрыстом мы можам ісьці ўпэўненым крокам, сьведамыя таго, што не заблудзімся і ня трапім у бязвыхадную цемру. Хрыстос запэўнівае нас у сваёй непамыльнасьці: «Я сьвятло сьвету: хто пойдзе за Мною, той ня будзе хадзіць у цемры, але меціме сьвятло жыцьця» (Іван, VIII). Паволі вядзе Хрыстос сваіх вернікаў, але вядзе непамыльна.

Неадзін пасьля доўгага блуканьня пазнаўшы навуку Хрыста з вялікім захапленьнем гавораць: «Стацца шчырым хрысьціянінам, значыць памысна разьвязаць усе дачыста жыцьцёвыя і грамадзкія праблемы; выстарчыць успрыняць хрысьціянскія цноты, каб спынілася змаганьне клясаў і войны». Нажаль гэта так-жа вялікае абагульненьне і можа выклікаць неадно расчараваньне. Каб гэтая справа была так простаю, дык-бы яе даўно памысна разьвязалі. Нельга забывацца, што на жыцьцё чалавека маюць уплыў розныя людзкія, грамадзкія, эканамічныя дзейнікі, розныя новыя адкрыцьці, новыя ідэі і настроі — усё гэта кожначасна стварае сваеасаблівыя цяжкасьці, якіх хрысьціянства не касуе. Тут ёсьць шырокае поле, для праяўленьня свабоднае волі чалавека. І толькі тады можна спадзявацца шчасьлівае разьвязкі гэтых цяжкасьцяў, калі іх пачнуць разьвязваць свабодна і шчыра ў духу навукі Хрыста.

Хрысьціянства ня корміць сваіх вызнаўцаў зводнымі абяцанкамі, яно з досьледу тысячагодзьдзяў і са слоў Хрыста знае, што жыцьцё будзе заўсёды чалавеку падсоўваць розныя цяжкасьці і загадкі, на якія трэба будзе шукаць рады, але ў гэтых пошуках хрысьціянства мае непамыльнага праваднікá Хрыста, з Якім найцяжэйшае пытаньне можа разьвязаць найлепш і найхутчэй. Да гэткага перакананьня даходзяць штораз часьцей выдатныя дзяржаўныя мужы і пачынаюць вымагаць ад сваіх супрацоўнікаў ня толькі веды адміністрацыйнае справы, але і веды катэхізму.

Калішні прэзыдэнт рэспублікі Эквадару Гарчыя Марэно († 1875) часам прысутнічаў на экзамінах маладых праўнікаў, каб бачыць, якія будуць прышлыя дзяржаўныя мужы. Аднойчы ён быў сьведкам выдатнае абароны дакторскае дысэртацыі маладога праўніка. Прэзыдэнт гратуляваў маладога доктара і адазваўся да яго:

— Вы паказалі нам свае выдатныя веды права, але ці вы так-жа моцныя ў катэхізме? бо запраўдны юрысты павінен перадусім ведаць Божае права.

Пасьля гэтага прэзыдэнт даў некалькі пытаньняў з рэлігіі, на якія малады доктар ня ўмеў адказаць. Тады прэзыдэнт дадаў:

— Я вам раджу на некалькі дзён пабыць у капуцынаў, каб паўтарыць катэхізм, гэта вам будзе вельмі карысна.

Калі мы пасьля гэтых агульных разважаньняў пяройдзем да нашага беларускага жыцьця, дык бяз сумніву сьцьвердзім, што наш народ найбольш цярпеў тады, калі верхаводзілі грамадзкім жыцьцём людзі, якія найменш рахаваліся з навукаю Хрыста. Нельга забывацца таго факту, што ў нас быў час, калі нават рэлігію расцэньвалі з розных «воляў гасудара», «рацыяў стану» ці з волі патрыі. Усе гэтыя досьледы пакінулі яшчэ незагоеныя балючыя сьляды ў душы народу, на якія адзіным лекам можа быць грамадзкі лад пабудаваны на хрысьціянскіх асновах.

З гэтага гледзішча магчыма найбольш правільна ацэньваць праграмы сучасных партыяў і груповак. Нельга спадзявацца дабра ад праграмаў, якія ня ўзглядніваюць Божых правоў, а тымболш ад тых, якія стаяць у супярэчнасьці да Божых прыказаньняў. Партыйныя і грамадзкія дзеячы, якія ня ведаюць катэхізму — ёсьць нічым больш, як сьляпымі правадырамі, і да іх адносяцца словы Хрыста: «Ці можа сьляпы вадзіць сьляпога? Ці не абодва ўваляцца ў яму?» (Лук. VI, 39).

Беларускі народ ужо нацярпеўся нямала, каб у далейшым наражаць сябе самавольна на непатрэбныя небясьпекі. Нарэшце трэба сабе ўсьвядаміць, што запраўдным клічом і праграмаю нашага дзеяньня павінны быць словы гымну:

Мы хочам Бога ў шчасьці, горы,
загадах улады, кнігах праў;
на полі, горах і на моры
закон Ягоны каб настаў.

# ТЫ І ЯНА

РАЗЬДЗЕЛ 4.
(Працяг 5-ы).

**Грэх самагвалту.**

У нармальнага чалавека ў часе так званага дасьпяваньня адбываецца працэс, каторы юнака перамянае ў мужчыну. У гэтым працэсе асабліва значэньне мае дзейнасьць насенных залозкаў, якія сама тады прабуджаюцца. У іх пачынаюць вытварацца ня толькі насеньнікі (спэрматозоіды), але так-жа пачынаюць выдзяляцца нутраныя сэкрэцыі, аб якіх мы ўспыміналі перш, і якія маюць паважны ўплыў на нэрвовую сыстэ-

му і на падзел жыцьцядайных сокаў крыві. Гэтая нутраная сэкрэцыя насенных залозкаў называецца плоцьным горманам, яна беспасрэдна з залозкаў пераходзіць у кроў і зьяўляецца неабходнай для фізычнай і інтэлектуальнай сьвежасьці і неабходна патрэбна для поўнага разьвіцьця мужчынскасьці.

Вось-жа для дасьпяваньня вельмі важна, каб адбывалася ў поўным супакоі без закалотаў і перашкодаў. Маладыя цягляцы набіраюць сілы праз гімнастычнае практыкаваньне, але дасьпяваючыя залозкі, калі будуць раздражнівацца передчасна і ненармальна, стануцца слабымі і хваравітымі, а тымсамым траціць здольнасьць належна прычыняцца да развою юнака ў мужчыну і падтрымоўваць як сьлед здароўе цела.

Ня трэба ў гэтым часе непакоіцца тым, калі падчас сну арганізм сам выкідае лішнія сокі. Гэта ёсьць нармальным зьявішчам, што здараецца ў кожнага дасьпелага маладога чалавека больш менш кожны месяц і ёсьць знакам добрага здароўя. Але грашыў-бы той, хто сьлепа паслушны гонам натуры, выклікаў-бы штосьці падобнае сьведама.

Каб магчы ацаніць веліч такога праступства і ягоныя наступствы, асабліва ў галіне духовай, трэ' было-б ведаць, што спрычынілася да гэткага праступства. Тых, што блудзяць гэткім чынам, можна падзяліць на тры групы.

ДА ПЕРШАЕ групы залічаем тых, каторыя на пачатку зусім нясьведама ці то пад уплывам сапсаваных сяброў, ці праз неасьцярожнае ўступства на карысьць абуджаных сэксуальных гонаў, ці ўканцы дзякуючы нешчасьліваму здарэньню запазналіся з самагвалтам і бяз глыбейшае развагі ўсьцяж паддаюцца юрліваму пажаданьню. Трэба сказаць, што бязглуздзе ў хлапцоў часам бывае страшэннае. Усьцяж пастанаўляюць ня падаць у маральнае балотца, аднак-жа калі надыдзе спакуса — ёй паддаюцца. Гэтая спакуса цягне іх у свае сеткі, нахабна пускаючы туман ў вочы і паддаючы думкі, быццам ёй нельга супраціўіцца, і што быццам гэта адзіны спосаб заспакаеньня і пад. Чым далей, тым лягчэй ёй паддаюцца быццам дзеля прывычкі, ледзь не механічна. Аднак-жа пасьля граху саміх на сабе, гневаюцца і шкадуюць, што з імі так брыдка сталася. Хоць няраз і горача жадаюць пакінуць самагвалт, але дзеля прывычкі і дзеля слабасьці ўсьцяж да яго вяртаюцца. Бываюць між імі адзінкі выдатныя, ідэальнага палёту, каторым гэткі стан рэчаў спрычыняе вялікую прыкрасьць.

ДА ДРУГОЕ групы належаць такія, што ў падобны-ж спосаб увайшлі ў навык, але ня робяць сабе з гэтага найменшага клопату, каб яго пазбыцца. Гэта слабыя характары, бяз ніякае энэргіі. Яны ня могуць здабыцца на ніякія больш мужныя натугі.

ДА ТРЭЦЯЕ групы трэба залічыць тых, у якіх сэксуальныя гоны ўзялі верх над усімі пачуцьцямі і заразілі сабою ўсе думкі і жаданьні. Такія людзі стаюцца няздольнымі да вышэйшых і шляхатнейшых думак. Іх можа зацікавіць толькі тое, што мае сэксуальную прынаду. Цяжка знайсьці адпаведныя словы, каб належна выказаць той брыдкі і гідкі ўзровень думак, пажаданьняў, гутарак ды гульняў гэткіх людзей.

***

Ясна, што паміж гэтымі трымя групамі, асабліва між першаю і трэцяю існуе вялікая розьніца і што іх у ніякім выпадку нельга мераць адною меркай. З людзьмі першае групы можа здарыцца (ня цьвердзім, што заўсёды так ёсьць), што часам паміма праўдзівых стараньняў, захоўваючы ўсю асьцярожнасьць, каб унікнуць нагоды да граху, і ня гледзячы на шчырую малітву і прыступаньне да сьвятых Тайнаў, пасьля даўжэйшае барацьбы супраць граху, — некаторыя з іх яшчэ падаюць і аддаюцца ў палон спакусе, аднак гэткі ўпадак ня ёсьць цяжкім грахом, бо ў выніку раздражненьня і замяшаньня ня было ані належнае развагі, ані так-жа зусім дабравольнае згоды на грэх. Аднак трэба засьцерагчыся, што не заўсёды лёгка можна вырашыць у гэткіх выпадках аб ступені грахоўнасьці, дзеля гэтага самая заўвага ня можа быць штуршком да лёгкадумства; яе можна ўважаць толькі нейкаю, хаця і нязначнаю, пацехаю для ўсіх тых, каторыя шчыра стараюцца ўсьцерагчыся граху, але часам паддаюцца гвалтоўнай спакусе. Калі-б аднак хтосьці зразумеў гэтую заўвагу ў гэткі спосаб, быццам пры напоры моцных спакусаў уканцы можна ім уступаць, — дык ужо самая гэткая думка была-б грахом.

Наступствы самагвалту для фізычнага разьвіцьця арганізму залежаць ад розных абставін, асабліва ад частасьці паўтараньня гэтага праступства. У кожным выпадку яны дзейнічаюць на арганізм падобна да глыбокага надрэзу на кары маладога дрэва раньняю вясною, з якога выцякае сок, патрэбны дрэву да росту. Дзеля гэтага найбольш адпаведным сказам для азначэньня самагвалту быў-бы: дзейнасьць накіраваная на аслабленьне самога сябе. Самагвалт уводзіць закалот у спакойнае разьвіцьцё насенных залозкаў, змушаючы іх да дзейнасьці, якую толькі праз некалькі год павінны былі-б спаўняць, гэтым самым робіць трудным выкананьне цяперашняга заданьня, што адносіцца да тых нутраных сэкрэцыяў, якія наапул спрычыняюць розьніцу плоці.

Праўды, не заўсёды ў аднолькавы спосаб праяўляюць сябе тыя няшчасныя вынікі, але ў бальшыні выпадкаў пры частым паўтараньні грахоўнага налогу, гіне фізычная і духовая сьве-

жасьць, а на яе мейсца прыходзіць перадчаснае перамучаньне і вяласьць, за чым усьлед ідзе прыгнобленасьць; позірк стаецца прыцьмёны і неспакойны; падвяўшыя, сьцягнутыя і быццам паражытыя абліччы тых няшчасных будзяць літасьць у іншых і зраджваюць аж надта выразна праступнае парушэньне жыцьцяносных сілаў. Нават рэдкія выпадкі ўпадку праяўляюцца ў сумных наступствах.

Шмат аб гэтым гаворыць вось гэтае прызнаньне маладога чалавека: «Падмануты нядобрым прыкладам у 14-тым годзе жыцьця, трапіў я ў налог самагвалту. Толькі дзякуючы дакладу айца ўсьведаміў сабе ясна маё дзеяньне ад некалькі гадоў. Мая гордасьць перашкодзіла мне зьверыцца перад айцом. Цяпер я перамог тыя цемры і грэх. Гэта сталася не бяз цяжкога змаганьня, але затое цяпер маю ўражэньне, быццам з мяне зваліўся аграмадны прыгнятаючы цяжар. Цяпер чуюся вольным, шчырым, чэсным і чыстым чалавекам!» Далей ён прызнаецца: «Даўней на пытаньне: Як маешся? адказваў: Сяк-так. Цяпер я поўны надзеі. Усе дзівяцца з майго зьмененага выгляду; даўней усьцяж бледны і кволы, цяпер я сьвежы, поўны і здаволены, як тое сонейка на ўсходзе».

Іншы ліст можа не аднаму памагчы і дадаць адвагі: «Перадусім магу прызнацца айцу, што мне і надалей удалося вытрываць. Хоць часам і трудна, аднак рашучая і бадзёрая пастава ўздымае надзейны погляд на неба; пабчым хто сільнейшы, Бог ці чорт!.. і хто паможа да перамогі. Няхай гэта айцец скажа ўсім тым хлапцом, якія трапілі ў гэткае самае няшчасьце, што і я; зварот з гэтае дарогі ёсьць зусім магчымы і што ў гэтым павароце і перамозе ўпаўшыя знойдуць шчасьце і супакой задаваленьня».

Неадрэчы тут паказаць на той стан, да якога можа пазьней давесьці хлапца грэх самагвалту, калі ён, будучы ў палоне гэтага граху, заключаць сужэнства. Сумныя вынікі праяўляюцца пераважна толькі пры грахох трэцяй і часткава другой групы, а ў першай групе амаль не здараюцца зусім.

У дасьпяваючых маладых людзей, каторыя дабравольна і сьведама паддаюцца змысловаму пажаданьню і ў ім раскашуюцца, гэтае пажаданьне бярэ верх над думкаю і паводзінамі, заражае іхняе інтэлектуальнае жыцьцё, накіроўвае ўсе іхнія імкненьні і жаданьні так, што па-за сэксуальнай роскашшу нічога больш ня знаюць, што іх больш пацягвала-б, цешыла, або што было-б для іх прадметам годным большых стараньняў і натугаў.

Ясна, што такія адзінкі і на сужэнства глядзяць толькі, як на магчымасьць здаволіць свае нізкія гоны. Жанчына-ж у іхных вачох спадае на ўзровень прылады, што дае прыемнасьць. Для годнасьці і красы бацькаўскіх абавязкаў, для шляхотнае і чыстае любові, для духовае прыгажосьці сужонкі і маткі, не стае ім ніякага зразуменьня. Адзіным іхным жыцьцёвым ідэалам стаецца нічым неакелзанае дагоджваньне змыслам.

Потым мы пастараемся паказаць, якія страшэнныя наступствы можа мець для дзяўчыны падобнае настаўленьне хлапца адносна яе. Цяпер зьвернем увагу толькі на адно. Як было ўспомнена папярэдне, чыстая дзяўчына мае толькі жаданьне каханьня і ня сьведамая нават пачуцьцёва-змысловых гонаў мужчыны. Яна іх не разумее, бо ў яе тыя гоны звычайна маўчаць, пакуль захоўвае дзявочасьць і, паводля сьведчаньня паважных лекараў, трэба вялікай далікатнасьці з боку шляхотнага мужчыны, каб каханая жанчына ў сужэнскім акце бачыла тое, што з Божае ўстановы павінна бачыць, гэта значыць доказ сьвятое, праўдзівае любові, вонкавы сымбаль духовага злучыва.

Вельмі-ж тады памыляюцца шматлікія мужчыны, думаючы, што дзяўчына мае тыя самыя пажаданьні, што й яны.

Дзяўчына, якая вырасла здалёк ад усялякіх спакусаў, разумее толькі духовую любоў. Калі яна туліцца да мужчыны, шукае ў яго пяшчотаў, гэта ёсьць праяў жаданьня, каб ля яго схавацца, знайсьці ў ім падтрыманьне, памоцніка і абаронцу, якому з поўным даверам магла-б аддацца без засьцярогі. Як-жа прыкрым для яе будзе адкрыцьцё, што таго, чаго шукала, не знайшла, і што перад тым, каму жадала даверыцца, павінна быць асьцярожнай, а нават, што нідзе ёй ня ёсьць так небясьпечна, як каля яго (таго сапсаванага з трэцяе групы); што гэта яна павінна мець сілу, каб яго і сябе бараніць перад упадкам! Нажаль неадна дазнаўшыся гэткага расчараваньня, толькі ўступае перавазе мужчыны і ня здолее нічога запярэчыць каханаму. У душы аднак часта чуецца сьмяротна нешчасьлівай, бо замест спадзяванага шчасьця, знайшла горкае расчараваньне.

Ад некалькі гадоў можна заўважыць новую плынь у жаночым сьвеце, якая ёсьць быццам бунтам супраць таго, як у бальшыні мужчыны разумеюць і выкарыстоўваюць свае сужэнскія правы. Можна пачуць думкі і сказы, што лепш вырачыся сужэнства, чым стацца нявольніцамі разбэшчанай юрлівасьці мужчын. «Лепш у дзеўках сівець, чым замужам паршывець». Шляхотную жанчыну абурае, калі бачыць, што яе муж ня мае ніякага зразуменьня для яе вышэйшых лятуценьняў і духовых патрэбаў, і што бачыць у ёй перадусім прыладу для задаваленьня сваіх юрлівых гонаў, ці ў лепшым выпадку — гаспадыню і старожку гаршкоў, але ня роўную сабе сяброўку жыцьця.

Тое, што гэткія мужчыны называюць любоўю, у сапраўднасьці зьяўляецца найбольш грубым эгаізмам і пахацяй, каторая ня чуе і ня бачыць,

якую страшэнную крыўду спрычыняе прадмету сваіх пажаданьняў. Такія мужчыны няздольныя заўважыць, як сваімі нізкімі пажаданьнямі і сваім надакучаньнем глыбока раняць пачуцьцё сужонкі, як нішчаць узаемную пашану, на каторай выключна апіраецца праўдзівая любоў, і як гэтым самым разбураюць назаўсёды тое з нічым не параўнанае, вялікае шчасьце, выцякаючае з любові. Не адна ня мела ўжо ясьнейшае хвіліны ад часу, калі па шлюбе пераканалася, да якога распусьніка сталася прывязанаю. Горкім жалем заліло ея сэрца пытаньне: «Як мой муж дайшоў да такіх рэчаў? Гдзе ён гэтага навучыўся?» Адзін з найвыдатнейшых лекараў, нэрвовых хваробаў кажа, што знаў не адно здарэньне, гдзе дзікая брутальная распуста мужа, ня толькі зьмяніла найдалікатнейшае каханьне ў найглыбейшую агіду, але спрычыніла нэрвовы растрой. Яшчэ горшае ўражэньне выклікае заўважаная пазьней у мужа бяссорамнасьць адносна ягонага разуменьня плоцьнага сужыцьця і любові наагул. Тады ў душы жанчыны родзіцца цяжкое змаганьне з расчараваньнем і зьнішчэньнем усіх лятуценьняў аб шчасьці і любові. Часта гэтым расчараваньнем здушваецца больш шляхотная любоў жанчыны, а пасьля ўжо можа быць толькі гутарка аб цярпеньні і пераношаньні няшчасьця.

Дый ня трэба забывацца, што сужэнства ня ёсьць бесперапыннай крыніцай роскашаў каханьня. Яно толькі дае права да заспакаеньне ў дазволены спосаб плоцьнага гону, але не дае легітымацыі для дагоджваньня ўсім ягоным прыхацям. Праўдзівая любоў вымагае прыняць пад увагу жаданьні і настроі сужонкі і зразуменьня, што ў сужэнстве бываюць так-жа абставіны і пэрыяды, калі паўстрыманасьць ёсьць абавязкам мужчыны. Тыя, каторыя гэтага ясна і выразна не ўсьведамілі і не здабылі патрэбнага самаапанаваньня, могуць апынуцца ў вельмі цяжкай сытуацыі, калі не жадаюць для свае юрлівасьці ахвяраваць сваю душу і ўсё сямейнае шчасьце.

Гэткім спосабам не адзін у сваіх маладых гадох рыхтуе ўжо напярод руіну прышлага магчымага шчасьця ў сужэнстве. Хтосьці мог-бы на гэта сказаць, што ёсьць і такія людзі, якія пасьля вельмі лёгкадумнае маладосьці, счасам сталіся добрымі і дастойнымі мужамі і бацькамі сем'яў. Хто аднак зможа глянуць глыбей у іхныя душы, пераканаецца, што зьверхнасьць мыліць. Плоцьнае надужываньне ніколі не праходзіць бясьсьледна. Нізкі сьвет думак проста не даецца вырваць з карэньнямі, каб яго льга было заступіць іншым сьветам. Часта ўсё духовае жыцьцё нізка ўпаўшых людзей стаецца нявылячальна хваравым, або і зусім згубленым. У першую чаргу ў іх аслабленая воля для змысловых падражненьняў, бо ніколі ня прывыклі да перамаганьня пажаданьняў. Лёгка тады яна ўступае пры кожнай нагодзе.

Узяўшы пад увагу ўсе тыя шкоды, якія не даюцца направіць, варта спытацца; чым-жа вабіць да сябе самагвалт? Магчыма дае некалькі хвілін змысловае прыемнасьці, якія ў кожнага чалавека хутка пераменяюцца ў абрыдласьць... Ці-ж гэта само не паказвае на патрэбу энэргічнага змаганьня з ім?

(Далей будзе).

Паводле кніжкі Шільгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя**.

# Апошнія гады жыцьця Сьв. Еўфрасіні

### ІКОНА ЭФЭСКАЕ БАГАРОДЗІЦЫ.

У зьвязку з будоваю новых сьвятыняў сьв. Еўфрасіня пастанавіла здабыць для іх якіясь вызначнейшыя сьвятасьці. Паводля тагачаснае візантыйскае традыцыі на Усходзе меліся тры іконы Багародзіцы, маляваныя апосталам Лукою: Ерузалімская, Царгародзкая і Эфэская. На Захадзе іншым абразом прыпісвалі апостальскае паходжаньне. Відаць, што візантыйская традыцыя добра была ведама ў Полацку, бо нават полацкія князі былі нейкі час у Візантыі і між імі родны бацька сьв. Еўфрасіні. Адну з гэтых іконаў, у жыцьцяпісе кажацца Эфэскую, і задумала набыць сабе ў Полацк сьв. Еўфрасіня. Дзеля гэтага яна, шчыра памаліўшыся Богу аб помачы, выслала манастырскага слугу Міхася ў Візантыю з багатымі дарункамі для імпэратара Мануіла Комнэна (1143-1180) і патрыярха Лукі Хрызоверга (1156-1169), просячы іх, прыслаць для Полацку Эфэскую ікону Багародзіцы званую Одзігітрыя (Пуцяводніца).

Імпэратар і патрыярх, атрымаўшы шчодрыя дары, здаволілі просьбу, але магчыма ня зусім так, як апавядаецца ў жыцьцяпісе. Як слушна заўважвае Голубінскі, відавочна яны ня прыслалі самага арыгіналу іконы, але копію і то не з Эфэскае, але з Царгародзкае іконы, якая звалася Одзігітрыя. Магчыма, што якраз гэткае і было жаданьне сьв. Еўфрасіні. Дый у самым жыцьцяпісе кажацца што патр. Лука разам з япіскапамі і духавенствам перш пабагаславіў ікону ў саборы і толькі потым перадаў слузе Міхасю. Нельга падумаць, каб нават патрыярх багаславіў ікону маляваную апосталам і ўслаўленую шматлікімі цудамі — гэта ён мог рабіць толькі тады, калі мелася справа з копіяю.

З вялікаю радасьцю атрымала сьв. Еўфрасіня гэтую ікону і ўпрыгожыла яе золатам ды дарагімі каменьнямі. Сталага мейсца для іконы, ві-

даць, ня было, бо ў адных рэдакцыях жыцьцяпісаў кажацца, што яна знайходзілася ў Спаскай царкве, у іншых, — што ў Багародзічнай; гэтая разьбежнасьць вестак выклікана тым,што быў уведзены звычай: кожны аўторак абносіць гэтую ікону па ўсіх полацкіх цэрквах, але нагэўна найдаўжэй затрымоўвалася ў Спаскай і Багародзічнай цэрквах, адкуль і выносілася. Сам звычай вынасу іконы кожны аўторак аднача́сна пацьвярджае думку, што копія была зроблена з Царгародзкае (Візантыйскае) іконы, якую так-жа паводля тагачасных звычаяў выносілі кожны аўторак.

Што сталася пасьля з гэтаю іконаю? цяжка сказаць з пэўнасьцю. Расейскія гісторыкі разам з мітр. Макарыям кажуць, што ў 1239 г. падчас шлюбу маскоўскага князя Аляксандра Неўскага з дачкою полацкага князя Брачыслава, перанесьлі ікону ў Тарапец, дзе яна мела і астацца. Нават меўся быць пісаны акт аб яе пераносе з Полацка ў Тарапец. Затое а. Стэбэльскі, апіраючыся на сьведчаньне Я. Сушы і Кульчынскага, гаворыць, што гэтую ікону меў забраць галіцкі князь Леў і перанесьці ў Бэльзу, адкуль у 1389 г. яе перанесена ў Чэнстахову. Каторая з гэтых вестак адказвае праўдзе, сёньня нельга сьцьвердзіць, але ёсьць факт, што іконы ў Полацку няма ад XIV в.

## КРЫЖ ЛАЗАРА БОГШЫ.



Аднача́сна з іконаю Багародзіцы сьв. Еўфрасіня атрымала з Канстантынополя шматлікія іншыя сьвятасьці. Дзеля перахаваньня гэтых сьвятасьцяў, яна замовіла ў 1161 г. у выдатнага беларускага майстара Лазара Богшы вартасны крыж.

Крыж мае шасьціканцовую форму, велічынёю 51 см. і выкананы з серабра, золота і дарагіх каменьняў. Па бакох крыжу на сярэбраных пазлачаных бляшках знайходзіцца напіс у царкоўнаславянскай мове, які ёсьць вельмі вартасным і рэдкім дакумантам з тых часоў. Дзеля нястачы царкоўна-славянскага шрыфту падаём і сам напіс у перакладзе: «У лета 6669 (гэта зн. 1161) пакладае Еўфрасіня чэсны крыж у сваім манастыры ў царкве сьвятога Спаса. Чэснае дрэва бязвартаснае ёсьць, а акаваньне яго: золата і срэбра і каменьне і пэрлы 100 грывен, а да... (тут напіс пашкоджаны) 40 грывен. Каб ніколі ня выносіўся з манастыра, ні аддаваўся, ні прадаваўся. Калі-ж хто не паслухаецца і вынесе з манастыра, каб яму не ўспамагаў чэсны крыж ні ў гэтым жыцьці, ні ў будучым, і хай будзе пракляты сьвятою і жыватворчаю Тройцаю і сьвятымі 318 айцамі і сямю саборамі сьвятых айцоў, і хай яго спаткае доля Юды, які прадаў Хрыста. Хто адважыцца зрабіць гэта... (зноў пашкоджана) вяльможа ці князь, ці біскуп ці ігуменя, ці любы іншы чалавек, хай на ім збудзецца гэтае праклявьцьцё. Еўфрасіня-ж раба Хрыстова, зладзіўшая гэты крыж, прыйме вечнае жыцьцё з усімі сьвятымі».

Выкліканы гэты напіс тым, што даўней грабленьне царкоў ня было рэдкім зьявішчам, нават у спакойны час і нават самыя архірэі асабліва грэкі няраз забіралі з царкоў вартасныя рэчы. У Полацку якраз няпаўна займаў япіскапскі пасад грэк Козма (1143-1156), магчыма ён прычыніўся да таго, што ў напісе не забыліся ўспамянуць і «біскупа».

Варта зацеміць, што тагачасная царкоўнаславянская мова ў напісе мае паважны ўплыў жывое беларускае мовы з характэрным аканьнем, напр.: манастырь, акаваньє. Офросинья, пискоупъ. Трэба думаць, што кнігі, перапісваныя сьв. Еўфрасіняю ўсе мелі гэткія ўплывы жывое тагачаснае мовы.

Пры канцы ручкі на крыжы ёсьць напіс майстра: «Госпадзе, памажы рабу свайму Лазару, званаму Богшы, зрабіўшаму гэты крыж, для царквы сьвятога спаса і Еўфрасіні». Пачатак гэтага напісу зусім такі самы, які сустракаецца на Барысавых камянёх.

На крыжы знайходзяцца выкананыя ў перагарадчатай візантыйскай эмалі абразы Хрыста, Багародзіцы і сьвятых, а каля іх адпаведныя напісы. З напісаў так-жа даведваемся аб тых мошчах, якія знайходзяцца ў крыжу: 1) частка дрэва акропленая крывёю Іс. Хр., і 2-я крыху большая частка дрэва сьв. Крыжа, 3) камень ад гробу Багародзіцы, 4) частка мошчаў першамучаньніка Сьцяпана, 5) кроў сьв. Дзьмітра, 6) частка мошчаў сьв. Панцялеймана.

Мастацкая апрацоўка крыжа сьведчыць, што ў XII в. у нас на бацькаўшчыне былі майстры,

якія ў майстэрнасьці з золатам і эмальлю асягнулі вяршок тагачаснае візантыйскае тэхнікі. Дзеля гэтага некаторыя расейскія гісторыкі стараліся вышукаць нейкую быццам полацкую традыцыю, паводля якое крыж меў быць зроблены ў Ерузаліме, а толькі прыкрашаны ў Полацку. Трэба думаць, што гэтую дагадку маглі выклікаць напісы каля сьвятых амаль у чыстай грэцкай мове славянскімі літарамі, напр.: (а) Лукас, (а) Маркос, гагія Софія і т. д. Аднак самая форма крыжа падобная да таго, які бачым на Барысавых камянёх, беларускія словы ў напісе і самае прозьвішча майстра адназгодна і ясна сьведчаць, што ён увесь быў зроблены ў Полацку. Веда грэцкае мовы зьявілася ў Полацк адначасна з япіскапамі грэкамі.

На вялікі жаль няма ведама, дзе гэты крыж знайходзіцца сёньня і агулам, ня ведама якая яго спаткала доля. Каля 1930 г. былі паявіліся весткі ў газэтах, што бальшавікі мелі яго прадаць у Швэцыю. Ці праўды так сталася, можна будзе даведацца ў больш нармальных часох. Аднак пракляцьце выпісанае на крыжы не абміне бязбожнае, злачыннае рукі, якая яго вынесла з Спаскае царквы.

## ПАЛОМНІЦТВА ў СЬВ. ЗЯМЛЮ.

Перш, чым гаварыць аб самым паломніцтве, трэба зазначыць, што некаторыя гісторыкі, апіраючыся на тым факце, што цела сьв. Еўфрасіні да 1910 г. знайходзілася ў Кіяўскай Пячэрскай Лаўры, стараліся даказваць, што сьв. Еўфрасіня рабіла паломніцтва толькі ў Кіяў і там памерла. Гэтая дагадка зусім ня згодная з фактамі. Аб тым, як цела сьвятое знайшлося ў Кіяве, даведаемся потым. Усе жыцьцяпісы і традыцыя аднагодна сьведчаць аб тым, што яна хадзіла ў Палестыну. Ведаючы дату сьмерці 23-V, паломніцтва ў Кіяў трэба было-б пачынаць у красавіку, а гэта амаль немагчыма дзеля вясеньняга бездарожжа.

Думка аб паломніцтве ў Сьвятую Зямлю мусіла зьявіцца ў сьв. Еўфрасіні пасьля атрыманьня іконы Багародзіцы з Царгароду. Слухаючы апавяданьня слугі Міхася аб далёкім і цікавым падарожжы і аб сьвятынях, сьв. Ефрасіня праектуе паломніцтва ў Ерузалім, каб пакланіцца Хрыстоваму гробу і там памаліцца за сябе і за родны край. Аб сваім намеры яна паведамляе ўсіх сваіх родных. Тыя на гэткую вестку зьехаліся ў манастыр сьв. Спаса і стараліся адмовіць сьв. Еўфрасіню ад такога вялікага, цяжкога і даволі небясьпечнага падарожжа. У жыцьцяпісах падчыркваецца, што яны малілі яе, каб «не пакідала іх і ўсяе свае бацькаўшчыны». Сьвятая супакоіла іх, што не пакіне іх, але пойдзе маліцца за іх.

Перад самым ад'ездам сьв. Еўфрасіня не змарнавала нагоды павялічыць лік сясьцёр свайго манастыра. Калі разам з усімі роднымі прыехаў брат сьв. Еўфрасіні Вячэслаў з жонкаю і дзьвюма дочкамі Кірыніяю і Ольгаю, дык пасьля даўжэйшае гутаркі сьв. Еўфрасіня заўважыла, што абедзьве князёўны цікавяцца манашым жыцьцём. Жыцьцяпісец зазначае, што сьвятая мела такі дар ад Бога; калі на каго глянула, адразу бачыла, ці ёсьць у ім дабрадзейны дух і ці можа быць выбраньнікам Божым. Дзеля гэтага, калі Вячэслаў астаўся начаваць у манастыры, дык сьвятая для яго прызначыла асобны пакой, а князёўнаў паручыла сястры Еўдакіі. Астаўшыся з імі на адзіноце, зьвярнулася да іх з такою прапановаю: «Хачу вас заручыць бясьсьмертнаму Жаніху і ўвясьці ў Ягонае валадарства». На гэта абедзьве адказалі: «Хай станецца воля Гасподня і твая сьвятая малітва; як хочаш, валадарка, так рабі з намі».

Па некалькі днёх сьв. Еўфрасіня заклікала брата і сказала яму, што хоча пастрыгчы ў чарніцы ягоных дачок. Вячэслаў гэтаю весткаю быў вельмі незадаволены і прыгноблены і зьвярнуўся да яе з дакорлівым словам: «Валадарка мая, што ты надумалася зрабіць мне; два плачы хочаш спрычыніць душы маёй: па табе маю плакаць, што адходзіш ад нас і па дзецях сваіх сумаваць, што мяне пазбаўляць пацехі». Княгіня-ж на гэтую вестку залівалася горкімі сьлязамі, але ўканцы абое не змаглі супрацівіцца сьв. Еўфрасіні і прысталі на яе волю. Яна заклікала тагачаснага япіскапа Дзіянісія (1166-1182) і ён пастрыг абедзьве князёўны ў царкве сьв. Спаса і багаславіў іх. У пастрыжэньні Кірынія атрымала імя Агата, а Ольга — Еўфімія.

Хутка пасьля гэтага здарэньня сьв. Еўфрасіня канчаткова ўстанавіла устаў для абох манастыроў мужчынскага і жаночага ды перадала ігуменства сваёй сястры Еўдакіі, а сама пачала рыхтавацца ў дарогу.

Памаліўшыся, сьв. Еўфрасіня ў таварыстве малодшага брата Давіда, сястры Еўпраксіі і слугі Міхася, разьвіталася з усім блізкімі і знаёмымі ды выправілася ў далёкі шлях. Палачане з шчырым жалем і сьлязамі далёка суправаджалі яе.

Які быў шлях гэтага паломніцтва ў жыцьцяпісе не гаворыцца, але ўспамінаецца, што па дарозе стрэнула «цара, які йшоў на Мадзяраў і адаслаў яе з вялікаю чэсьцю у Царгарод». З гэтага выходзіла-б, што яна выбрала шлях сухапуцьцем, а ня тым слаўным водным шляхам «З Вараг у Грэкі», па якім рабіліся вялікія падарожжы.

Гэта так-жа сьведчыла-б аб тым, што паломніцтва пачалося зімою. Паводля тагачасных звычаяў у нас вялікія падарожжы рабіліся або раньняй зімой, або раньнім летам, каб абмінуць цяжкое бездарожжа. Выйшаўшы з Полацку каля Каляд, вясною можна было быць каля Візантыі. У гэтым выпадку толькі вясною сьв. Еўфрасіня магла спаткаць імпэратара. Гэтае спатканьне і пазваляе дакладна азначыць дату паломніцтва



Сьв. Еўфрасіня-Прадслава
паводля В. М. Васьнецова

і адначасна сьмерці. Ужо расейскі гісторык Голубінскій заўважыў, што спатканьне з імпэратарам Мануілам Комнэнам можа быць выкарыстана для ўсталеньня даты паломніцтва, але адмовіўся ад гэтае працы, спасылаючыся на тое, што Мануіл некалькі разоў рабіў паходы супраць Мадзяраў. Тымчасам з таго факту, што сьв. Еўфрасіня выйшла з Полацку ўжо тады, калі там япіскапам быў Дзіянісій, які пастрыгаў Кірынію і Ольгу ,паломніцтва не магло быць раней 1166 г., бо ён незадоўга да гэтага часу заняў полацкі пасад, але з другога боку імпэратар Мануіл апошні паход супраць Мадзяраў рабіў так-жа ў 1167 г. У гэты паход ён вышаў на Вялікдзень 8-га красавіка, вос-жа якраз і мог спаткацца з сьв. Еўфрасіняю дзесьці на абшары свае імпэрыі хутка пасьля выхаду. Як бачым факты зусім добра годзяцца з сабою, таму 1167 г. трэба прыняць, як пэўную дату паломніцтва сьв. Еўфрасіні. Перадапошні паход Мануіла быў у 1163 г. распачаўся летам — гэтым самым яго нельга пагадзіць з фактамі паданымі ў жыцьцяпісе. Гэтаксама трэба адкінуць падаваныя дагэтуль даты 1173 і 1175, як зусім беспадстаўныя, зрэштаю яны і падаваліся толькі, як прыблізныя, а не як пэўныя.

Вяртаючыся далей да самага паломніцтва, бачым, што сьв. Еўфрасіня пасьля сутрэчы з імпэратарам накіравалася ў Царгарод праўдападобна у суправаджэньні імпэратарскіх прадстаўнікоў. Там яе сустракалі з почасьцямі, але гэта не затрымала яе доўга ў Царгародзе. Яна адведала вялікую царкву сьв. Сафіі, купіла дарагіх кадзілаў, залатую кадзільніцу і ўзяўшы багаславенства ад патрыярха, пасьпяшыла ў Ерузалім. Ня было ў характары сьв. Еўфрасіні затрымоўвацца доўга нават у слаўным Царгародзе, калі галоўная мэта падарожжа — Ерузалім яшчэ была ўперадзе.

У Царгародзе было лёгка знайсьці магчымасьць хутка даехаць у Палестыну, таму ўжо ўканцы красавіка сьв. Еўфрасіня разам з сваімі спадарожнікамі ступіла на Сьвятую Зямлю.

Набліжаючыся да Ерузаліму сьв. Еўфрасіня выслала свайго слугу з просьбаю да тамтэйшага патрыярха, каб адчыніў ёй «Хрыстовыя вароты». Тут праўдападобна маецца на ўвеце «Залатыя вароты», якія знаходзяцца ўва ўсходняй часьці Ерузаліму з боку Элеонскае гары, праз каторыя паводля пазьнейшае традыцыі Хрыстос, перад сваімі мукамі, ўрачыста ўвайходзіў у Ерузалім у вербную нядзелю. Гэтыя вароты вядуць на плошчу Омара і ў часе, калі Ерузалімам валодалі Туркі, хрысьціянам агулам туды ўступ быў забаронены. Аднак падчас паломніцта сьв. Еўфрасіні ў Ерузаліме панавалі рама-каталіцкія цары крыжаносцаў, у руках якіх знайходзілася ўлада між 1099-1187 г. Трэба думаць, што і самая просьба аб адчыненьні «Залатых варотаў» хутчэй адносілася да тагачаснага царя Амальрыха I (1162-1173). Ён, як і ягоныя напярэднікі, былі ў далёкім спародненьні з нашымі князямі праз жонку францускага караля Гэнрыка I Ганну Яраслаўну (1019-1054). Магчыма, што гэты далёкі успамін, а на дадатак яшчэ і паручэньне ад імпэратара Мануіла Комнэна, пляменьніца якога была жонкаю Амальрыха, спрычынілася да таго, што просьбу сьв. Еўфрасіні ахвотна выканана. Шчодры падарунак ад сьвятое відаць так-жа меў сваё значэньне, бо гэты кароль ведамы з таго, што быў ласы на грошы і почасьці, а сьв. Еўфрасіня ніколі пасланца ня высылала з пустымі рукамі.

Увайшоўшы праз «Залатую браму» ў Ерува-

лім, сьв. Еўфрасіня перапрасіла Хрыста за гэткі крок і разам з усімі сваімі спадарожнікамі пайшла пакланіцца Хрыстоваму Гробу. Туды прыходзілі яны на малітву тры дні падрад. Уканцы сьв. Еўфрасіня абкадзіла Гроб прынесенымі з візантыі кадзіламі, шчодра абдарыла сьвятыню і пакінула на Гробе ў дарунку ад Беларусі залатую кадзільніцу і зьвярнулася да Хрыста з малітваю, каб умерці ў гэным сьвятым горадзе. З усяго паступованьня сьв. Еўфрасіні відаць, што гэтая просьба ня была пустым жаданьнем славы, але найбольшым актам гэройства: аддаць жыцьцё сваё ў ахвяры за родны край, падобна, як Хрыстос аддаў жыцьцё за ўвесь людзкі род.

### СЬМЕРЦЬ СЬВ. ЕЎФРАСІНІ.

Малітва яе была выслухана, бо прышоўшы ад сьв. Гробу ў манастыр сьв. Багародзіцы, у якім была затрымаўшыся, яна адразу занемагла. Лежучы хвораю, сьв. Еўфрасіня шчыра дзякавала Богу за тое, што і гэтым разам выслухаў яе малітву і пачала рыхтавацца да сьмерці. Перад сьмерцю яна вельмі жадала быць на Іардане, аднак хвароба ўжо не дала ёй магчымасьці пайсьці туды, дзеля гэтага яна выслала сваіх спадарожнікаў, каб прынамся прынесьлі ёй вады з Іардану. Калі тыя вярнуліся з Іарданскаю вадою, сьв. Еўфрасіня ўстала з ложка ім на спатканьне, напілася вады, акрапілася ёю і легла зноў, ды пачала маліць Бога, каб хутка прыняў яе душу.

У часе гэтае хваробы ёй зьвіўся анёл, і паведаміў, што Бог выслухаў яе малітвы, прыняў яе ўсю працу і што на спатканьне яе душы ўжо чакаюць анёлы ў небе.

З вялікай радасьцю і бязьмернай удзячнасьцю ўспрыняла сьв. Еўфрасіня гэтую вестку і паслала ў манастыр сьв. Савы, прасіць тамтэйшага архімандрыта, каб далі ёй мейсца на пахаваньне. Архімандрыт вельмі прыхільна прыняў пасланца, але ня мог здаволіць ягонае просьбы, бо паводля волі сьв. Савы ў манастыры было забаронена хаваць жанчын. Ён параіў пасланцу зьвярнуцца ў Тэадозіяў манастыр сьв. Багародзіцы, у якім спачывалі: маці сьв. Савы, маці сьв. Тэадозія, маці сьв. бяссрэбранікаў Кузьмы і Дзямяна ды іншыя выдатныя жанчыны. Сьв. Еўфрасіня скарыстала з рады і атрымаўшы згоду тамтэйшага архімандрыта шчыра дзякавала Богу за такую вялікую чэсьць спачываць між сьвятых жанчын. Яна закупіла сабе мейсца ў прытворы і дамавіну ды спакойна чакала апошняе хвіліны.

Калі на дваццаць чацьвёрты дзень хваробы яна адчула блізкі канец, заклікала сьвятара, выспавядалася і запрычашчалася і хутка аддала сваю сьвятую душу Богу 23-га травеня 1167 году.

З чэсьцю пахавалі сьв. Еўфрасіню ў раней закупленым гробе. Невясёлыя вярталіся спадарожнікі сьв. Еўфрасіні ў родны Полацк нясучы сумную вестку аб сьмерці сьвятое. Усе Палачане з вялікім жалем успрынялі гэтую сумную вестку і пастанавілі сьвяткаваць памяць сьв. Еўфрасіні, славячы Трыадзінага Бога за тое, што маюць сваю заступніцу ў небе.

**а. Л. Гарошка.**

# Царква і поступ культуры

Царква, як арганізацыя людзей, вызнаючых аднолькавыя праўды веры, прымаючых тыя самыя сьвятыя Тайны, пад кіраўніцтвам аднаго намесьніка Хрыста, ўжо мае за сабою аграмадны гістарычны шлях, на якім няраз мусіла перажываць вельмі цяжкія пробы. Сучасная нам пара ёсьць адною з цяжэйшых пробаў для Царквы. Напады з усіх бакоў скіроўваюцца ў розных напрамках, так супраць ерархіі, як і супраць вернікаў і самае навукі ды арганізацыі Царквы. Найгалаўнейшым закідам у гэтых нападах заўсёды быў і сёньня ёсьць той самы сказ: Царква перашкаджае поступу і гуртуе каля сябе розных «рэакцыянэраў».

Перш, чым адказваць на гэты закід, трэба выясьніць, што самае слова поступ-прагрэс сёньня вельмі часта надужываюць, як шмат падобных прыгожых слоў. Сёньня поступам называюць ня толькі поступ упярод — прагрэс, але і поступ узад — рэгрэс. Мы стаімо перад фактам, што сёньня называюць сябе паступоўцамі-прагрэсістамі якраз тыя партыі і грамадзкія сыстэмы, пад кіраўніцтвам якіх чалавек пазбаўляецца найаснаўнейшае свабоды: свабоды веры, свабоды слова, свабоды сумленьня, свабоды працы. Астаўляецца толькі адну «свабоду»: хваліць сваіх прыгнятальнікаў.

Нажаль гэта ня новая выдумка, бо ўжо ад двох стагодзьдзяў у некаторых кругох поступам называюць закрыцьцё сьвятыняў і закладаньне дамоў распусты, насьмешку над маральнасьцю і пашырэньне парнаграфічнае літаратуры, распуснага кіна і тэатру.

Разумеецца гэткаму «поступу» Царква не садзейнічае, але ўсемі магчымі спосабамі яму супрацьставіцца, бо ня хоча вяртацца да дахрысьціянскіх часоў і да ўсходня-дэспатычных грамадзкіх сыстэмаў.

Галоўная мэта Царква ёсьць: збаўленьне людзкое душы. Але гэта магчыма асягнуць, толькі дзякуючы свабоднаму выконваньню Божых прыказаньняў і Хрыстовае навукі. Свабода магчымая толькі ў запраўдным поступе культуры і цывілізацыі. Дзеля гэтага Царква сілаю свайго Божага пасланства ўсемі магчымымі спосабамі садзейнічае запраўднаму поступу культуры.

Запраўдны поступ характэрны тым, што ён абымае ўсё жыцьцё чалавека: інтэлектуальнае,

маральнае і матэрыяльнае; фальшывы поступ заўсёды аднабокі. Калі людзі ўганяюцца толькі за матэрыяльным поступам, зусім забываючыся аб маральным, дык гэта ўканцы даводзіць да паважных непаразумленьняў і да самавынішчэньня, да вялікае руіны.

Аб тым, што Царква заўсёды старалася і стараецца пра культурны ўздым чалавецтва найлепш сьведчыць той факт, што, дзе толькі хрысьціянства пускала свае карані, адразу зьяўляліся кнігі ,вытваралася пісьменства, паўставалі школы розных ступеняў. Першыя унівэрсытэты паўставалі выключна дзякуючы царкоўнай ерархіі. І сёньня (не рахуючы чыста духоўных сэмінарыяў, якіх ёсьць каля тысячы) ёсьць 20 каталіцкіх унівэрсытэтаў у розных краінах, тысячы сярэдніх рэлігійных школаў і дзясяткі тысяч пачаткавых школаў. Якраз за школьніцтва вядзецца найвастрэйшае змаганьне таталітарных урадаў супраць Каталіцкае Царквы. Як-бы рэлігійнае ўзгадаваньне ня спрыяла поступу, дык-бы вернікі не далі навуцы нічога новага, а так рэч маецца зусім наадварот: якраз веруючыя людзі зрабілі найбольшыя адкрыцьці ўва ўсіх галінах навукі і мастацтва. Такія фізыкі, як: Іс. Ньютон, А. Ампэр, Ж. Ом, Ал. Вольта, Ж. Дюмас, М. Фаррадэй, Б. Франклін, Р. Бойль, Г. Марконі, Э. Рутэрфорд, Плянк і ін.,былі глыбака рэлігійнымі.Тое самае бачым і ў астраноміі: Г. Галілей, М. Капэрнік, І. Кэплер, В. Гэршэль, П. Ляпляс, Араго Ф., І. Мэдлер, У Левэрые і ін. — усё гэта веруючыя людзі. Тео-ж бачым і ў кожнай іншай галіне людзкое веды. Заняло-б шмат часу і мейсца пералічаць толькі самыя прозьвішчы выдатных вучоных — веруючых у Бога. Затое варта пераглянуць жыцьцяпісы гэніяў такое меркі, як: Л. Пастэр, І. Паўлоў і пад.,каб пераканацца,якія яны былі верныя сыны Царквы і колькі яны прычыніліся да поступу ў навуцы і культуры. Варта ў кожным горадзе пашукаць найвыдатнейшых помнікаў мастацтва, будаўніцтва, архітэктуры і заўсёды гэтымі помнікамі будуць рэлігійныя абразы, сьвятыні, статуі сьвятых.

Варта пашукаць найпрыгажэйшага сьпеву і заўсёды яго знойдзецца ў рэлігійным сьпеве і на багаслужэньнях. — Гэта ўсё сьведчыць аб тым, што рэлігія ўздыймае людзкі дух да небасяжных вышынь, дае невычарпальную крыніцу натхненьня і творчасьці, адкрывае шырокае поле да поступу ў дасканаласьці, словам вядзе да запраўднага поступу.

Грамадзкае жыцьцё так-жа шмат зьмянілася на лепшае дзякуючы хрысьціянскай навуцы Царквы. Ад Царквы нельга вымагаць рэвалюцыяў, але яна паволі выконвае сваё пасланства, як дрожджы ў цесьце, ператвараючы чорствую душу першабытнага чалавека ў хрысьціянскую. І мяклі пад уплывам хрысьціянскае навукі жарстокія старадаўныя звычаі, лагаднела вострае заканадаўства, апаноўваліся нізкія інстынкты.

Толькі дзякуючы хрысьціянскай навуцы жанчына атрымала роўныя правы з мужчынай, калі жанчын нароўні з мужчынамі пачалі залічаць у лік сьвятых. Скасаваньне паншчыны ў мінулым стагодзьдзі і скасаваньне рабства так-жа зьяўляецца плодам навукі Хрыста. Дзе Хрыстова Царква ня зусім акрэпла, там і да сёньняшняга дня не зьвялося рабства, а дзе Царква знайходзіцца ў стане прасьледу, там зноў вяртаюць да паншчыны горшага сорту.

Уздым матэрыяльнага дабрабыту людзей быў і ёсьць так-жа адным з важных імкненьняў Царквы. Праўда хрысьціянская навука на кожным кроку прыпамінае чалавеку, каб надта ня прывязваўся да матэрыяльных багацьцяў і выгадаў, каб дзеля іх не забываўся аб сваёй галоўнай мэце, але адначасна Царква бароніць права чалавека да жыцьця і да штодзеннага хлеба, для годнага падтрыманьня жыцьця. Дабрадзейныя ўстановы ад найдаўнейшых часоў амаль выключна, а сёньня ў бальшыні арганізуюцца і ўтрымоўваюцца Царквою і найчасьцей маюць рэлігійны характар, як напр.: Харытас, Брацтвы і пад. Падзяліцца сваім багацьцем з бедным і патрабуючым ёсьць неадменным наказам Хрыста, аб якім Царква напамінае сваіх вернікаў пры кожнай нагодзе.

Словам, калі ўважна прыглянуцца да культурнага поступу чалавецтва, дык усюды заўважыцца аграмадны уклад Царквы ў гэты поступ і дзеля таго само напрошваецца пытаньне: як агулам магчыма, што нехта робіць закіды Царкве, быццам яна перашкаджае і працівіцца поступу культуры?

Гэта магчыма з двох прычын. Папершае з сумам трэба сьцьвердзіць, што ёсьць людзі, якія зусім ня лічацца з праўдаю і якія «пляваць хочуць на факты», калі гэныя факты ім недаспадобы, — нажаль гэткіх людзей сёньня ёсьць нямала. Падругое, закід такі можна пачуць з вуснаў людзей, якія ўганяюцца за навінкамі, не зважаючы на тое, добрыя яны, ці не, — абы толькі былі «мадэрныя». Гэта людзі, для якіх мыльныя бурбалькі больш падабаюцца, чым мадонны Рафаэля. Царква-ж пабудавана на нязьменных, вечных праўдах, а не на прамінаючых, мыльных бурбальках і таму некаторым зьменьлівым, ветранным натурам, яна выдаецца «непаступовай». І запраўды: паўставалі дзяржавы і гінулі; валадары зьмяняліся на сваіх пасадах; дзяржаўныя сыстэмы чаргаваліся адна за другою, — а Хрыстовая Царква, як стаяла, так і стаіць непахіснаю. Час да Царквы ня мае прыступу; ён ня мае сілы грызануць яе сваім слабенькім зубам, ці скрышыць яе, як іншыя, чыста людзкія ўстановы — Царква гэта ўстанова Божая, а тым самым і вечная.

Ужо ня раз на працягу вякоў былі выпадкі, калі здавалася, што Царква вось, вось руне пад

напорам разбурханых жыцьцёвых хваляў, але сталася інакш. — Прасьледаваньні паганскіх імпэратараў, вялікія ерасі, маральны ўпадак, рэфарматарскія рухі і бязбожныя рэвалюцыі нападалі на Царкву з усіх бакоў і вернікі з жахам глядзелі няраз у будучыню, але заўсёды паўтаралася тое, што калісь было сталася на Гэнізарэцкім возеры. Аднойчы, калі Хрыстос пераплываў з апосталамі праз гэтае возера, схадзілася вялікая бура і хвалі пачалі заліваць човен, а Хрыстос спакойна спаў. Тады наляканыя апосталы будзяць Хрыста, кажучы: «Настаўнік, мы гінем! Але Ён, устаўшы, закрычаў ветру і хваляваньню вады і сталася ціша. І спытаўся іх: Дзе вера ваша?» (Лук. VIII, 23-25).

У сёньняшні неспакойны час зноў адна з вялікіх гістарычных навальніцаў налягае на Царкву, быццам як на перашкоду для поступу, але ўсе гэтыя напады ў канчатковым выніку канчацца так, як і раней, выяўляючы толькі лішні раз непахісную магутнасьць Хрыстовае Царквы.

**а. Лазар.**

# Песьня аб Лазары

(Старая беларуская набожная песьня, перадрукаваная з «Кантычкі», выданай у Вільні ў 1914 г. Гэтая песьня калісь была вельмі распаўсюджаная між лірнікамі і ёсьць добрым прыкладам таго, як Царква прышчэплівала свае сацыяльныя ідэі вернікам).

Жыў сабе пан багаты,
Шмат меў срэбра, шкарлатаў
і каштоўныя шаты.

Еў, піў, гулі разводзіў,
Дзень і ноч так праводзіў,
У сэрцы пыхі меў годзе;

Расьсядаўся ў пакоі,
Еў і піў да убою,
А брат мучыўся ў гною.

Ведаў, што быў ў зацішку
І ляжаў там паблізку,
А яды? хоць-бы з міску.

Хоць аб'едзену-б скварку,
Ці віна бела чарку
Не пашле небараку.

Ў крэсьле пан засядае,
З яды вусны ўцірае,
А Лазар замірае.

Багач «віват» гукае,
Дзень, ноч музыка грае,—
Бядак сьлёзы глытае.

Лазар стогне ад мукі,
У ранах ногі і рукі, —
Багачу-ж не ў дакукі.

Сам скранушча ня можа,
Уся парвана адзёжа.
Усё ўздыхае: «Мой Божа!»

Багач йдучы з сьвятліцы,
Дзе так Лазар сьлязіцца,
Вокам кінуць баіцца.

З гэткім сэрцам цагляным
Пыхай чорнай убраным
У той бок ані глянуў.

Лазар вочы падносе,
Як ласка ў бядоце,
Гэтак жаласна просе:

«Ты йдзеш, братка, сюдою,
Ласку-ж мей нада мною,
Зжалься над беднатою,

І пазнайся на болі,
На маёй злой нядолі,
Даць скажы хлеба, солі.

Вышлі каплю вадзіцы,
Каб хоць чуць асьвяжыцца, —
Мне хвораму абмыцца».

Кажа як недарэчы,
Увесь гарыць, як у печы:
«Браце мой, чалавеча!

Пачынай сабе скромна,
Аба мне ў сэрцы помні,
Мілым словам успомні;

Ня брыдзіся — хоць панам —
Так благім маім станам,
Каб ня быў пакараным».

А багач азірнуўся,
Як індык той надуўся,
К бедаку так зьвярнуўся:

«Што, быдлё ты, мармочаш?
Са мной разам сесьць хочаш?
Сваяка з сябе корчыш:

Уздумаў братам мне звацца, —
Не хачу з табой знацца,
Твайму лганьню ўслухацца.

Я багач ўсяго сьвету,
Маю коні, карэту, —
Ты які пан на гэта?

Маю двор і сьвятліцы,
І сады, і крыніцы:
Скарб твой: чэрві, як сьпіцы.

Маю дом багацтв поўны,
Каралеўскім ён роўны —
Чалавек ты нікчомны:

Маю атлас, пурпуры,
Сабалі і ваўчуры —
На табе-ж латы, дзюры.

Крэсел, лаваў, савіта,
Сьцены срэбрам абіты,
І жыву знамяніта;

А твае плот — пакоі,
Мрэш сабачай ядою,
А твой стол — кучы гною.

Дзе ў цябе тут банкеты,
Марцыпаны, паштэты?
Я ўсё ем, але дзе ты?

Што ляжыш тут пад небам
Аб вадзе і аб хлебе, —
Мне такіх не патрэба.

Ў скрынях маю ўвастатку,
Грошы многа ў дастатку, —
Не баюся прыпадку,

Бо хто-ж можа забраці
Мне маё ўсё багацьце,
Скарбы хто мне расхваце?

Ты мне што за вашмосьця?»
Плюнуў беднаму ў вочы, —
Вось багач які ў злосьці.

І так з гэтага змору
У двор пашоў багач скора,
Поўны пыхі, ганору.

Лазар зьліўся сьлязамі,
Сьціснуў толькі плячамі,
У неба глянуў вачамі,

Ад усіх пазабыты
І ад брата прыбіты,
Не абдараны сыта.

Хоць сабакі ў літосьці
Яму зносілі косьці
Сьцераглі так ад млосьці.

Яго скулы лізалі,
Раны так абмывалі,
Душу ў целе трымалі.

І так Лазар ў бярлогу
Аддае душу Богу,
Там ля братніх парогаў.

У небе быццам на сьвяце
Сталі трыумфаваці,
Як стаў Лазар канаці.

З так мізэрнай пасьцелі
У неба ўзялі анелі
Лазара к Збавіцелю.

Пасадзілі на троне,
На Абрамавым лоне,
У шчасьлівасьці кароне.

«Ужо тваё, Лазар, сьвята —
Ты ад Бога прыняты,
Твой брат будзе пракляты.

Ты ўжываеш вясельля», —
Вось слова Збавіцеля,
Душы адкупіцеля:

Як прашло часу мала,
Што-ж з багатым тым стала?
Чарцей ліха прыгнала:

Прыляцелі, напалі,
«Ужо пара», закрычалі:
«Йсьці табе ў пекла далей!

Не рабі тэстамэнту
Ужо з багацтв, з дыямэнтаў,
Годзе плачу, лямэнту».

На чарцей паглядае —
У хаце поўна іх зграя;
Ён са страху ўздыхае.

Як яго скон заскочыў,
На верх вылупіў вочы
І зубамі ласкоча,

А тут чэрці вужакі,
Ужо даюцца у знакі:
як на зьвера сабакі,

Адарвалі пустошу
Ад ўсіх скарбаў, ад грошы,
Панясьлі ў пекла ношу.

Там пячэцца ён штодня
За свае усе збродні,
А язык — як паходня.

З галавы рве валосьсе
І жалобна галосе
Да Лазара ў нябёсах:

«Сьвяты браце, Лазару,
Глянь, што маю за кару,
Памажы ў гэтай гары:

Змачы палец у моры,
Капні мне ў маім горы,
Зьменшыш смагу мне скора».

Лазар так яму кажа:
«Я нічога ня ўраджу;
Век бяду цярпі, ваша». ,

А багач адазвецца:
«Дрэнна мне тут вядзецца,
За ўсё жаль маю ў сэрцы.

Свайго Лазара брата
Пагарджаў я, пракляты,
Як ляжаў ён за хатай:

Што ня даў брату хлеба,
Як была ў ім патрэба,
Плату маю ад неба.

Дастаткі і пухары
Памаглі ў гэтай кары,
Што ня помніў ахвяры

За саеты і слугі
Злыя тузаюць духі
І ў смале вучаць скрухі.

З аксамітаў абдзёрты,
У агонь вечны ўпёрты,
Я цярплю тут ліхоты.

Хараство зьлезла з цела,
Высах твар ачанелы,
Шыя акачанела:

За гульню і музыкі —
Скаргі, плач скрозь вялікі,
«Гора нам!» чую крыкі.

Няма тых, што гулялі
І грашыць памагалі,
Дзень ночь банкетавалі.

Сірата сам, цярпі ты,
З срэбра шатаў пазбыты:
На гэта заслужыў ты.

Сваяка ня сыскаці,
Што-б памог небарацы.
На сьвет з пекла дастацца.

Маці выклята-б была,
І зямля — што насіла.
Што мяне нарадзіла,

І мае дні праклятыя,
Што-б памог небарацы
Забываючы брата.

Ужо ня выйду навекі
З гэтай пеклянай сьпекі,
В Боскай выпаў апекі».

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## СЬМЕРЦЬ КАРДЫНАЛА СЮАРА.

Пасьля кароткае хваробы дня 30 травеня г.г. памёр прымас Францыі кардынал Эмануіл Сюар у веку 75 гадоў. Пакойны кардынал меў вялікую павагу ў вернікаў і дзяржаўных францускіх дзеячоў, таму ягоная сьмерць адгукнулася балючым рэхам па ўсёй Францыі, як вялікая страта для францускае Каталіцкае Царквы, а ягоныя хаўтуры былі аграмаднаю рэлігійнаю маніфэстацыяю ў Парыжу. На хаўтурным багаслужэньні прысутнічалі: 6 кардыналаў, 16 архібіскупаў, 40 біскупаў, шматлікія прадстаўнікі ад рэлігійных арганізацыяў, францускія міністры і іх прадстаўнікі, а так-жа прадстаўнікі замежных дыплёматычных прадстаўніцтваў.

Велічна разьвітаўся Парыж з сваім архіпастырам.

## КАРДЫНАЛЬСКАЯ КАЛЕГІЯ.

Пасьля сьмерці кардынала Сюара ёсьць вакантных 15 кардынальскіх мейсц; гэта значыць, што сучасная кардынальская калегія складаецца ўсяго з 55 чалавек. Паводля нацыянальнага складу сучасных кардыналаў ёсьць: 21 італьянец, 5 французаў, 4 амэрыканцы (ЗША), 3 немцы, 2 гішпанцы, 2 партугальцы, 2 бразылійцы, 2 аргентынцы, 1 армянін, 1 сірыец, 1 кубанец, 1 чыліец, 1 перувіянец, 1 канадыец, 1 кітаец, 1 аўстраліец, 1 ангелец, 1 нідэрляндзец, 1 бэльгіец, 1 аўстрыяк, 1 паляк, 1 мадзяр.

## ДОЛЯ КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ Ў МАСКВЕ.

Па загаду савецкіх уладаў сёлета 15 травеня рэктар адзінае на ўсю савецкую Расею каталіцкае царквы сьв. Людовіка ў Маскве а. Томас мусіў аддаць ключы гэтае царквы якойсьці савецкай польскай жанчыне. Царква сьв. Людовіка зьяўляецца ўласнасьцю францускае амбасады, дзеля гэтага раднік пры францускай амбасадзе запратэставаў супраць такога распарадку савецкае ўлады, аднак пратэст астаўся бяз ніякага здавальняючага адказу. Варта ўвагі той факт, што незадоўга перад гэтым фактам камуністычныя газэты ў Парыжы і Лёндане пісалі аб патрэбе «палажыць канец выкарыстоўваньню каталіцкае царквы сьв. Людовіка ў Маскве для шпіянажу на карысьць Ватыкану». Вось і апраўданьне! Спрабуй даказаць, што гэта няпраўда! Гэткім парад-

кам ня толькі савецкія грамадзяне каталікі, але нават і дыпляматычныя прадстаўнікі іншых краінаў на абшары Савецкае Расеі пазбаўлены магчымасьці выконваць рэлігійныя практыкі, якія гарантуюцца канстытуцыяю.

## ЗАБАРАНЯЮЦЬ ПАЛОМНІЦТВЫ.

Баўгарскі сучасны ўрад забараніў паломніцтва да манастыра Рыля, матывуючы сваю забарону тым, што гэтыя паломніцтвы мелі «палітычны характар».

## РУМЫНСКІ ЎРАД СУПРАЦЬ ЦАРГАРОДЗКАГА ПАТРЫЯРХА.

Па загаду сучаснага румынскага ўраду парах грэцкага праваслаўнага прыходу ў Букарэшце прадстаўнік царгародзкага Патрыярха ирт. К. Маротакіс мусіў выехаць з Румыніі.

## ПАРТРЭТ СТАЛІНА ЗАМЕСТ УКРЫЖАВАНЬНЯ.

Сёлета ў Румыніі зачынена ўсё рэлігійныя школы, а іхныя будынкі і маемасьць урад сканфіскаваў сабе. Гэткім парадкам рэлігійныя школы заменены на дзяржаўныя. Са сьцен былі паздыманыя Укрыжаваньні і абразы сьвятых, а на іхняе мейсца пазавешвана аграмадныя партрэты Сталіна ў сядзячай позе з дзяцьмі на каленях і надпісам пад партрэтам: «Дазвольце дзеткам прыходзіць ка мне».

Настаўнікам з рэлігійных школаў загадана пераключыцца ў дзяржаўныя школы, прайшоўшы адпаведныя курсы марксістоўскага пераўзгадаваньня. Гэткія курсы ладзяцца часта і звычайна трываюць нядоўга. Калі на курсах выявіцца, што нехта ня ўспрыймае марксізму — спачатку робяцца розныя захады «абразуміць» такога, калі й гэта не памагае, прымаюцца больш дзейныя меры.

Ува усіх румынскіх школах заведзена навучаньне расейскае мовы, як абавязкавае.

## ПАЛАЖЭНЬНЕ КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ. Ў ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ ПАГАРШАЕЦЦА.

Канфлікт між урадам і Каталіцкаю Царквою ў Чэхаславаччыне з дня на дзень пагаршаецца. У сваім пастырскім пасланьні з дня 28-га травеня г.г. праскі архіяпіскап Бэран прыпамінаў вернікам, каб ня супрацоўнічалі з тымі, хто сіламоц абмяжоўвае правы і свабоду Царквы, бо гэткія людзі тым самым падлягаюць выкляцьцю.

Чэскі ўрад уводзіць у блуд грамадзкую апінію, выдаючы «Бюлетэнь каталіцкіх сьвятароў», у якім супрацоўнічаюць бязбожнікі, якія ня маюць ніякага права нават да самога назову «каталікі». Дзеля гэтага ўсякія распараджэньні ў царкоўных справах, якія не паходзяць ад самае Царквы, ёсьць няважнымі — заяўляе архіяпіскап.

У зьвязку з заявою Міністэрства Асьветы, што ўзгадаваньне моладзі мае весьціся дзяржаваю ў марксістоўскім духу, архіяп. Бэран заяўляе, што Каталіцкая Царква ніколі не зрачэцца свайго права да ўзгадаваньня моладзі.

Нядаўна ўрад стварыў новую арганізацыю «Каталіцкую акцыю» незалежную ад каталіцкае ерархіі, каб гэтым здэзарыентаваць вернікаў, якія не заўсёды могуць даведацца праўду, бо каталіцкія кнігі ў бальшыні паканфіскаваны, каталіцкая пэрыядычная прэса амаль ня існуе, вядуцца розныя напады ды інтрыгі супраць каталіцкае ерархіі, каб скампрамітаваць яе ў вочах вернікаў, не даючы ніякае магчымасьці абароны — на гэта архіяп. Бэран прыводзіць цэлы рад канкрэтных фактаў. У гэткім палажэньні архіпастыр зьвяртаецца да сваіх вернікаў і асабліва да сьвятароў з гарачым заклікам: «Я ўпэўнены, што вы не прадасьце вашага гонару за 30 срэбнякоў і ня зрадзіце Хрыста».

## ЁСЬЦЬ І ТАКІЯ СЭКТАНТЫ.

Сэктанты так званыя Сьведкі Еговы нядаўна выдалі ў Швэцыі кніжачку, ў якой гаворыцца, што Сталін ёсьць Мэсіяю. Аўтар кніжкі якісьці Бэнжамэн даказвае, што ў Сталіна ўцелавіўся Сьвяты Дух. Між іншым ён піша: «Гарманійнае жыцьцё людзтва залежыць ад Сьвятога Сьвятла, якое паходзіць ад Бога і якім распараджаецца Сталін». На 75 стр. у гэтай кніжцы ёсьць партрэт Сталіна з надпісам: Сталін, Кароль Ізраіля, Мэсія — Кароль». Варта ўвагі, што Сьведкі Еговы распараджаюцца паважнымі сумамі грошаў, не зважаючы на сваю малую колькасьць сяброў. Распаўсюджваюць свае выданьні паміж найменш сьведамымі людзьмі. Адгэтуль можна дагадацца адкуль здабываюць грошы і чыю работу выконваюць.

## ПАЛОМНІЦТВА ПАРЫСКІХ СТУДЭНТАЎ У ШАРТР.

Пачынаючы ад 1935 г. паломніцтва парыскіх студэнтаў у славутую каталіцкую катэдру Маці Божае ў Шартр з году ў год стае ўсё больш многалюдным. У 1935 г. запачаткавала паломніцтва ўсяго 15 студэнтаў, у 1937 г. іх было 150, у 1942 — 650, у 1943 — 1250, у 1946 — 3750, у 1948 — 6000, а сёлета — 7000 студэнтаў розных нацыянальнасьцяў, між якімі не бракавала і беларусаў, маршыравала з Парыжа ў Шартр з хатыямі на плячох да цудатворнага абразу Найсьвяцейшае Дзевы. Гэта сьведчыць аб паважным духовым росьце сучаснага студэнцтва.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Перамяшчэньне архіяпіскапа.

Летась у сьнежні месяцы віленскага архіяпіскапа Карнілія Попова перанесена ў Горкаўскую епархію. Аб прычынах пераносу няма вестак (ЖМП).

### Доля перасяленцаў.

Тыя з беларусаў і украінцаў, якія пасьля 1945 г. схаваўшы сваю нацыянальнасьць, папераяжджалі ў Польшчу, спадзяючыся там знайсьці лягчэйшае жыцьцё, цяпер вылоўліваюцца спэцыяльнымі агентамі МВД і звозяцца у невялікае мястэчка на Сьлёнску Волява. Аб далейшай іхняй долі можна толькі дагадвацца. Лікавых дадзеных гэтае акцыі яшчэ няма ведама, але яна ацэньваецца на дзясяткі тысяч. (Базэлер Нахрыхтэн 26, 6).

### Голад на Беларусі.

Як паведамляе БІБ у шматлікіх ваколіцах Беларусі пануе голад. Ёсьць весткі, што на Мазыршчыне ў некаторых калгасах ведамыя шматлікія выпадкі сьмерці з голаду. Гэтыя весткі аднагодна падцьвярджаюць уцекачы з БССР. Толькі ў Менску і большых гарадох голад не адчуваецца.

## АНГЛІЯ.

### Суседзкае сужыцьцё.

У нядзелю 19-га чэрвеня галава Саюзу Украінцаў у Вял. Брытаніі д-р. Фундак разам з іншымі украінскімі дзячамі ў Лёндане прыбылі на беларускую сходку ў Беларускім Доме ў Лёндане. На гэтай сходцы праф. Сэмчышын меў даклад аб украінскім жыцьці. Так для госьцяў-украінцаў, як і для беларусаў гэтая сходка зрабіла вельмі добрае ўражэньне.

## АРГЭНТЫНА.

### Другі Зьезд ЗБА.

Сёлета 29-га травеня ў Буэнос Айрэс адбыўся другі Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Аргэнтыне. Пасьля справаздачы кіруючых органаў ЗБА за мінулы год, пароблена некаторыя папраўкі ў статуце і выбрана новую ўправу Згуртаваньня, у склад якое ўвайшлі: старшыня — К. Мерляк, сябры ўправы — інж. Ф. Фамін, І. Гейхрох, М. Ланкевіч, Ч. Юзэфовіч. Затым быў абмеркаваны плян працы на бягучы год і ўканцы выслана прывітальныя тэлеграмы прэзыдэнту Аргэнтыны, прэзыдэнту БНР і старшыні САБЭ.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Умовы працы.

Для новапрыехаўшых умовы працы ў Аўстраліі не заўсёды ёсьць добрыя, бо найчасьцей іх, як зьвязаных кантрактамі, пасылаюць на найгоршыя працы. Аб гэтым урадавыя дзейнікі адкрыта гавораць і пішуць у газэтах. Тэарэтычна на працягу году працу можна зьмяніць 3 разы, але толькі праз урад працы, які сьцісла трымаецца ведамых сабе прыпісаў. Затое тыя, якія кончылі свае кантракты, маюць у Аўстраліі вялікія выгады, бо працы хапае якое хочаш. У гэткіх умовах новапрыехаўшыя беларусы ў бальшыны пачуваюць сябе ня зусім добра.

### Спатканьне з старымі эмігрантамі.

Адзін з новапрыехаўшых эмігрантаў піша нам: «Знайшоў тут (у Аўстраліі) некалькі старых беларусаў-эмігрантаў. Пабеларуску гавораць слаба. Аб падзеях на Беларусі пасьля першае сусьветнае вайны ня мелі ніякага паняцьця, аднак цікавяцца беларускім жыцьцём. Калі аднаму з іх прачытаў некалькі беларускіх вершаў — стары заплакаў, кранула яго за душу. Спаткаў аднаго такога, што дзеля жонкі запісаўся палякам. Пасьля даўжэйшае гутаркі са мною заявіў жонцы, што ён ніякі паляк, а беларус. Жонка падняла плач, але ад таго часу ў яго хаце ня зводзіцца беларускае друкаванае слова...»

### Прыгожая выстаўка.

У сталіцы Аўстраліі Канбэрры ў днёх 28-29 травеня адбылася выстаўка нацыянальных ручных вырабаў быўшых ДП: беларусаў, латышоў, летувісаў, палякаў, украінцаў і эстонцаў. Хоць беларусаў у Канбэрры ўсяго 13 чалавек, але яны свой адзьдзел наладзілі так, што ён заняў адно з першых мейсц. Беларускія тканіны, вышыўкі і розныя вырабы з дрэва і інш. на тле прыгожа аформленае салі вабілі да сябе глядачоў. Беларус перакладчык даваў наведвальнікам ня толькі вычарпальныя паясьненьні аб выстаўленых рэчах, але і аб самай Беларусі.

З нагоды выстаўкі быў наладжаны канцэрт, але беларусы дзеля свае невялікае колькасьці не маглі ў ім прыняць удзелу.

Важным здарэньнем ня толькі для аўстралійскіх беларусаў, але для беларускае эміграцыі агулам быў факт, што выстаўку наведаў аўстралійскі міністр эміграцыі А. А. Кальвэл і пры гэтай нагодзе дакладней запазнаўся з беларусамі, цікавіўся этнаграфічнай картай Беларусі і лёсам беларускае эміграцыі. У выніку гэтага азнаямленьня міністр абяцаў адклікаць абмежаваньні адносна эміграцыі Беларусаў у Аўстралію і таго-ж дня вечарам сваю абяцанку выканаў.

## З. Ш. А.

### Новы сьвятар.

Дня 26-га травеня г.г. быў рукапаложаны на сьвятара адзін з маладых беларускіх манахаў бэнэдыктынцаў у Ільлінойс а. Уладзімер Тарасэвіч.

Нававысьвячанаму а. Уладзімеру жадаем плоднае працы ў Хрыстовым вінаградніку для збаўленьня людзкіх душ агулам, а сваіх суродзічаў у асаблівасьці.

### На арганізацыйнай ніве.

У зьвязку з прыездом новае беларускае эміграцыі ў Злучаныя Штаты Паўночнае Амэрыкі, пароблена адпаведныя крокі для залажэньня ў Нью Ёрку беларускае нацыянальнае арганізацыі пад назовам «Задзіночаньне Беларусаў у З.Ш.А.».

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Выпуск матурыстаў.

Беларуская гімназія ім. Я. Купалы ў Віндзішбэргэрдорфе дня 14-5. г.г. выдала шасьцём сваім абсальвэнтам матуральныя пасьведчаньні. Гэта ўжо чацьвёрты выпуск матурыстых з гэтае гімназіі. Чатырох з сёлетніх матурыстаў едзе на унівэрсытэцкія студыі ў Бэльгію.

Беларуская Гімназія ім. Як Купалы у Міхэльсдорфе так-жа сёлета зрабіла выпуск матурыстаў. Матуральныя пасьведчаньні атрымала 4 абсальвэнты.

### Новы часапіс.

Цэнтральная Управа Саюзу Беларускіх Журналістых на эміграцыі сёлета пачала выдаваць ратантарным друкам свой часапіс «Вольнае слова». Першы нумар выйшаў за месяц красавік. Зьмест фахова-журналістычны і добра дабраны.

### Перасяленьні ў лягэрах.

У зьвязку з масаваю эміграцыяю перамешчаных асобаў з Нямеччыны некаторыя лягэры паважна зьменшыліся і дзеля гэтага ІРО-ўскія ўлады пачалі перагрупоўваць рэшту насельнітва лягэраў. Беларускія лягэры Остэргофэн і Вандзішбэргэрдорф перанесены ў Розэнгайм, а Міхэльсдорф у Бакнанг.

### Вершы М. Багдановіча панямецку.

Нядаўна ў Гільдэсгайме вышаў невялічкі зборнічак вершаў М. Багдановіча ў нямецкім перакладзе нядаўна памёршага барона Аўгеня Энгэльгардта. Форма, зьмест і мова перакладаў вельмі добрыя, шкода толькі, што ўсяго дзесятак вершаў дачакаўся такога прыгожага перакладу.

## ФРАНЦЫЯ.

### Арганізацыя скаўтаў.

На сваім чарговым паседжаньні дня 19-га чэрвеня Беларуская Незалежніцкая Арганізацыя Моладзі у Францыі пастанавіла даручыць арганізаваньне беларускага скаўтынгу ў Францыі сябру М. Наумовічу. Гэткім чынам паложана пачатак тае арганізацыі, нястачу якое, даўно адчувлся ў белрускім жыцьці ў Францыі.

### У справе ІРО.

Усім беларусам пражываючым на абшары Францыі неабходна ведаць, што бяз рэгістрацыі ў ІРО «элежэбілітэ» нельга атрымаць ані праўнае, ані матэрыяльнае дапамогі так ад самаго ІРО, як ў некаторых выпадках і ад дзяржаўных установаў. Таму ў сваім-жа інтарэсе кожны беларус павінен пастарацца атрымаць ІРО-ўскую даведку аб «элежыбілітэ» праз беларускага прадстаўніка пры Цэнтральным Камітэце ІРО ў Парыжу інж. Л. Рыдлеўскага.

M-r. ing. Rydleûski Léon, 26, rue Montholon, Paris 9.

## ПОШУКІ.

**Пратасоў** — Веру, Надзю і Рыгора шукае Раговіч Піліп. Весткі кіраваць на адрэс:

Rohowicz F., CNR, Extira Gang № 48, Felleyet, Ont. Canada.

## УВАГА.

### У справе падпіскі.

Рэдакцыя «Божым Шляхам» гэтым падае да ведама ўсім сваім чытачом з па-за абшару Францыі, што падпіску і ахвяры на «Божым Шляхам» трэба перасылаць на адрэс а. д-р. Ч. Сіповіча:

Rev. dr. Sipovic Ceslau, Marian House, Holden Avenue, Woodside Park, LONDON, N. 12, England.

Адначасна просіцца ўсіх тых чытачоў з абшару Францыі, якія яшчэ да гэтага часу не ўрэгулявалі свае падпіскі, выканаць гэта магчыма хутчэй, высылаючы належную плату на адрэс рэдактара.

†

Дня 22-V-1949 г. у шпіталі «Haumont» скончыў свой жыцьцёвы шлях адзін з нашых сяброў беларусаў ЛОНСКІЙ Павел у веку 36 гадоў. Пахаваньне яго адбылося 25-V на магільніку ў Aulnoy (Nord)

Аб чым паведамляе М. Калесьнікевіч і сябры.

Хай будзе яму лёгкай чужая зямля!

## ЗЬМЕСТ.




Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.